


Дамы супольнымі сіламі



Гульні патрабуюць „флюсу"



Літаратурная старонка


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (397) | ГОД VIII | 6 КАСТРЫЧНІКА | ЦАНА 60 ГР


## ЖЫВОЕ СЛОВА

## ПАТРЭБНАЕ

Вельмі добра, што «Ніва» артыкулам старшыні БГКТ Міхася Хмялеўскага запачаткавала дыскусію аб удзеле нашага таварыства ў рэалізацыі пастаноў XIII Пленума КЦ ПАРП. Як ні кажы, а ўсё ж пастановы Пленума ўскалыхнулі і нас, сялян. Гэта сцвярджаю я на прыкладзе сваёй вёскі. Калі па радыё быў пададзены рэферат таварыша Гамулкі, людзі ў вёсцы загаварылі. Не толькі члены партыі. Жыхароў вёскі цікавяць ідэалагічныя справы не менш, чым гаспадарчыя. І таму, па-мойму, таварыства не можа быць абыякавым да спраў, пастаўленых на Пленуме. Перспектывы ідэалагічнай дзейнасці ў вёсцы неабмежаваныя, але, як дагэтуль, уздзеянне таварыства на вясковае асяроддзе было заўважана. Я гэта дакажу на прыкладзе маёй роднай вёскі Райск.

Некалькі год існуе ў нас гурток БГКТ. Аб чым гаварылася на яго сходах? (Дарэчы, гэтых сходаў не было ў нас замнога). На пачатку, як памятаю, прыезжыя актывісты гаварылі нам аб правах, якія дала народная ўлада беларусам, што мы абавязаны развіваць сваю нацыянальную культуру, асвету, традыцыі і г.д. Пасля ставіліся справы арганізацыі мастацкай самадзейнасці і на гэтым канец. Не сказаць, каб гэта былі цікавыя сходы. Раз ці два прыязджаў да нас лектар Галоўнага Праўлення. Праўда, даклад аб мінулым беларускага народа, яго гісторыі, культуры слухалі мы з вялікай цікавасцю. Старэйшае пакаленне гэтага ж ніколі нідзе не вучылася. Шкада толькі, што больш лектара ў Райску не бачылі.

На колькі мне вядома, пры Галоўным Праўленні БГКТ існуе лектарская група. Вось з гэтымі людзьмі сапраўды хацелася б пазнаёміцца бліжэй. На маю думку, у святле пастаноў XIII Пленума лектарская група павінна адыграць вялікую ролю.

Вёска цікавіцца сітуацыяй у краіне, на свеце, хоча ведаць аб выніках наступлення ў заваяванні космасу, аб спаборніцтве паміж двума палітычнымі сістэмамі. Яе цікавяць дасягненні камуністычнага будаўніцтва ў СССР. Жывем жа ў такі перыяд, калі круг зацікаўлення звычайнага, нават малаадукаванага селяніна пастаянна пашыраецца. А разам з гэтым узрастае і яго палітычнае заангажаванне, яго ўдзел у пабудове новага жыцця. Газета або радыё не можа замяніць жывога слова добра падрыхтаванага да данай тэмы лектара. Лектараў, на жаль, не відаць у вёсцы.

Гутаркі на тэмы міжнароднай сітуацыі, якія час ад часу праводзіць інструктар Павятовага Камітэта ПАРП на сходах нашай партыйнай арганізацыі, гэта кропля ў моры. Апрача гэтых гутарак у нашай вёсцы ніякай ідэалагічнай дзейнасці не праводзіцца. Таму нічога дзіўнага, што, там-сям, вольнае месца намагаецца выкарыстаць ідэалогія «Вольнай Еўропы». Малаасвядомаму чалавеку капіталістычная прапаганда ядам пранікае ў арганізм. І таму ў час нейкай цяжэйшай сітуацыі ў краіне ці на міжнароднай арэне панікёраў і разрабякаў маем гатовых. Яны зараз жа хлынуць у крамы, масава выкупляючы тавары ці яшчэ нешта іншае.

Я неаднойчы здзіўляюся стойкасці і ўпартасці бабтыстаў у распаўсюджванні сваёй «ідэалогіі». Штаб іхняй дзейнасці змяшчаецца ў суседняй вёсцы Плюціцы. Адтуль яны паўзуць па ўсіх акалічных вёсках са сваёй прапагандай. Нахабна

(Працяг на стар. 4)

## ПЕРШАКЛАСНІКІ

У бягучым навучальным годзе на Беласточчыне пачало навуку ў першых класах пачатковай школы каля 28-мі тысяч дзяцей. Яны ўжо будуць вучыцца 8 год.



З хваляваннем прыходзілі 7-мігадовыя грамадзяне нашай краіны на свой першы ўрок.

У Рыбалах (Бельскі павет) чакаў іх прыемны сюрпрыз. Кожны першакласнік, а ёсць іх тут 15, з рук сваіх настаўнікаў атрымаў першы ў жыцці ўласны сшытак і аловак. Падарункі першакласнікам закупіў бацькоўскі камітэт.

Ініцыятыва вартая шырокага распаўсюджання. Рэч, здавалася б, невялікая, але дзіця запомніць гэты момант на ўсё жыццё і заўсёды будзе ўспамінаць, што ў першы дзень пабыўкі ў школе атрымала яно першы сшытак і аловак.

Тэкст і фота: вр.

ВОПЫТ НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ АДНАГО ГОРАДА

## ДАМЫ СУПОЛЬНЫМІ СІЛАМІ

Гданьскі эксперимент напэўна дае цудоўныя псіхалагічныя і грамадскія эфекты, хоць ён і праводзіцца не з гэтай мэтай. У кожным выпадку, не галоўнай. Не можна ж абыйсці таго факту, што будучыя жыхары, працуючы пры будове дзяржаўнага будынка, дзе атрымаюць кватэры, лепей трактуюць грамадскае багацце і маюць пачуццё адказнасці за яго. Гданьскі эксперимент, які рабіўся з мэтай абніжэння коштаў будовы, а тым самым павелічэння планаў будаўніцтва і паляпшэння кватэрных умоў 50 тыс. людзей, патрабаваў добрай падрыхтоўкі і вялікіх арганізацыйных намаганняў. Заклік гарадскіх улад, каб пры будове дому працавалі яго будучыя жыхары, быў з ахвотаю падтрыманы. Няма ў тым нічога дзіўнага. Сярод сямей, якія павінны атрымаць кватэры ў першую чаргу, ёсць 171 сям'я, якія чакаюць на кватэры ўжо больш 10 год, столькі ж сямей — больш пяці год.

У 1939 г. у Гданьску жыло чвэрць мільёна жыхароў у 12.600 будынках. Вайну перажыло 4.600 будынкаў (у тым ліку каля 300 яшчэ ідзе пад разбор), рэшта ператварылася ў 3 мільёны $м^3$ грузу. Трэцяя частка сёлеташніх жыхароў Гданьска нарадзілася ў ім ужо пасля вайны. Штогод тут адбываецца 8 тыс. шлюбаў, штогод прыбывае каля 15 тыс. жыхароў. І прытым Гданьск, які лічыцца цяпер адным з перадавых у краіне гарадоў прамысловасці, навукі і культуры, адчувае сталы недахоп рабочай сілы.

У 1961 годзе выяснілася, што прадугледжаны на 1965 год лік жыхароў Гданьска будзе перавыйдзены. Трошкі пазней, на заклік КВ ПАРП Гарадская Рада Народовая прыняла пастанову аб значным змяншэнні коштаў будаўніцтва $1м^2$ кватэрнай плошчы. З такой умовай быў павялічаны план будаўніцтва ў бягучай пяцігодцы з 32 да 36 тыс. кватэр.

(Працяг на стар. 2)



На здымку:

Новы раён пры вуліцы Глыбокай у Гданьску, аддадзены ў эксплуатацыю перад Ліпеньскім святам.

Фота: ЦАФ




МІРОН КРЭМЭР

## НА ЗАСТАВЕ

Белая, доўгая, вузкая шаша. Утоптаны снег. Кропелькі вады, заварожаныя ў дыямэнты. Паабапал худыя, раскудлачаныя сосны. На тапалях трэшчыны.

Мароз. Дрэвы страляюць.

На працягнутай руцэ, нібыта на канаце, жанчына ледзь валачэ дзіця. Крок штораз хутчэйшы. Каб далей. На некалькі крокаў зялёныя стварэнні. Ружжа на плячах. Гарлавая мова.

— Мама?

— Лагер, сынок.

— Мама?

— Палоннікі.

— Мама?

— Не зявай!

— HALT!!

З-за весніцы льецца табун лахманоў. Шаргаюць косці. Калісьці рукі і ногі. Лахманы пускаюцца з ветрам.

Мароз. Дрэвы страляюць.

— Кавалак хлеба!

— Weiter! Weiter!

— Мама?

— Нясуць таварышоў, сынок.

— Мама?

— Ад тыфу.

— Не зявай!

— Zurick!!

Грукатанне драўляных хадакоў.

— Дайце кавалак хлеба, хлеба, хлеба...

Лахманы пускаюцца з ветрам.

Бяздольнасць натоўпу, напоўненага куксамі, выраўнана. Дрэвам ружжаў, трыманых наперавес. Людзі стоўпленыя.

— SINGEN!

Коўзаюцца малыя ногі. Гэтак хутка трэба ісці! Каб найдалей. За дрэва. Да акопа. Узарвалася песня. Льецца прастор. Льецца журба.

І ляск.

— SINGEN!

— Раскінулось море...

Ляск.

— SINGEN!

Маці: знак крыжа, рух вуснаў...

Працягнута да неба рука. Пальцы даўжэюць, даўжэюць. Кіпці раздзіраюць неба. Шматок неба. Шматок неба.

Мароз. Дрэвы страляюць.

Па пальцах, на зямлю, льецца пурпур.

23.VI.63 г. Вроцлаў

САКРАТ ЯНОВІЧ

## СОН

Сніцца начамі роднае поле і прыгумень зялёны, вясенні. Тут падпасаў я Красулю — перадойку... Дзічка на ўзмежку маніць пладамі, і ветрык у лістве весяліцца. Тут рваў я грушы на гнілкі... Маліннік сапрэлы задохся на спёцы і горбіцца ў леты старыя. Тут любіў я гуляць у схованкі... Рэчка за лугам цурчыць між каменняў і агаліла плыцізны залацістыя. Тут лавіў я калюшак...

На гняздзе буслінным кола тырчыць на гумне высока і дашчэнту рассохлася яно. Няма буслоў, бо балаціна прапала. Змеліяравалі. Вось як!

Не шкадую я буслоў...

МІКАЛАЙ ГАЙДУК

# БУРУШ

**«Въ лето 6796 (1288 г.)... Князю же Володимеру Васильковичю великому лежащю вь болести 4 лета, болезнь же его сице скажемъ: Нача ему гнити исподняя устна, первого лета мало, на другое и на третьее болма нача гнити...**

**...Посемъ же поеха изъ Каменца до Раю»...**
**Іпацьеўскі летапіс, стар. 214—215.**

*

Баравая сцежка вужакай вілася паміж дубамі-старэчамі, увешанымі космамі сівых спарахнелых імхоў: то ўздымалася на пагорак прэч усланы аблітымі квеццем верасамі, то спадала да рачулкі і, пераскочыўшы праз яе жвавую тонь плыткім бродам, зноў нікла ў гушчавіне.

Ужо другі дзень вёў асочнік Грынь князеўскі караван з Камянца ў Бельск. Пад конскімі капытамі пахрустваў лясны сухапад. Ціха гойдалася прытрочаная да папругаў двух коней — інаходнікаў калыска з хворым князем Уладзімірам Васількавічам. У сёдлах баяры і воі ў задуме. Сонца хілілася к заходу. Гусцеў у пушчы змрок.

— Ці далечэ да стану? — прыглушаным голасам пытаецца княгіня Ольга, пад'ехаўшы да праваднiка - асочніка.

— Тут зараз хата баброўніка Кузьмы, што князеўскія бабровыя жарэмʼі даглядае. У яго і заначуем, — адказаў той.

Караван выбраўся з пушчы на невялікую паляну, папярэсчаную загонамі спелага аўса і дацвітаючай грэчкі. На ўзбярэжку, пад разгалістай стромкай елкай, прыкурчылася хацінка баброўніка.

Грынь падагнаў свайго каня, каб папярэдзіць гаспадара хаціны аб князеўскім начлезе тут.

На гэтую вестку гаспадары замітусіліся, забегалі, рыхтуючы свяцёлку для высокага госця. Перад хатай зашугала полымя вогнішча і пад руплівымі рукамі гаспадыні на агромністай панове засквірчэлі бабровыя плюскі, а на ражнах ужо пакручваліся вепрavыя сырапечкі. Дачка баброўніка скокнула з берасцяным чарапком к жоралу за вадой і на трыногу над вогнішчам у крынове забулькала гойна заскваранaя трачаная саламаха.

Княгіня Ольга з прыслугамі — ятвяжкамі хадзіла ў свяцёлцы ля хворага князя, карміла яго і лажыла ка сну.

На высокім жнівеньскім небе задрыжалі першыя зоркі. Пушча пераклікалася стогнам пугача і сярдзітым мармытаннем рысі, ад якога коні ля прывязі шарахаліся і трывожна стрыглі вушамі.

Пры бляску вогнішча спажывалі вячэру і хвалілі гаспадыню за смачную ежу.

Грынь завіхаўся разам з гаспадарамі пад павеццю і на абарозе, рыхтуючы гасцям пасцель на сене.

— Што гэта за бяда надарылася князю нашаму? — запытаў ціхачом баброўнік Кузьма ў Грыня.

— Хто яго знае, — уздыхнуў той. — Кажуць, барада ўся чыста гніе ўжо чацвёрты год. А цяпер гніль і на гартань перакінулася. Зблажэў зусім, у сядле ўтрымацца не можа, бач, у калысцы возяць. У Бельск цяпер нясуць, а потым у Райгорад пададуцца.

— А чаго ж гэта ў такой хваробе ў такую далечу? — здзівіўся Кузьма.

— Ды князь перад смерцю на зямлю сваю і гарады глянуць пажадаў. Бо і так, кажа, спасу ніякага няма... Якія толькі зеляры ды лекары ў княжацкім двары ў Любомлі не пабывалі! І немцы, і венгры — ды ўсё нічога, — і Грынь махнуў рукой.

— А вяшчок Буруш, што каля істокаў Нарвы, на Бабяй гары, сядзіць, быў? — запытаў Кузьма.

— Не, гэтага не было, — падумаўшы, адказаў асочнік. — Ды і што ён паможа...

— Ого-го, Буруш! — усклікнуў Кузьма. — Ён, як чутка ходзіць, на ўсе болі спосабы мае.

Яшчэ доўга шапталіся між сабою бабоўнік з асочнікам. Потым жа, не гледзячы на позні час, падаліся да княгіні.

Наступнага дня, калі світанне праясніла край неба, Грынь, напоўніўшы лагвы крынічнай вадою і прымацаваўшы да пояса вострую барту, выязджаў з сялібы бабpоўніка.

— Калі не паспею да адʼезду князя з Бельска, — гаварыў ён Кузьме, — ты і ў Рай іх павядзеш. Толькі сцежы выбірай прастарнейшыя і люднейшыя, — павучаў. — Не ідзі пушчанскімі нетрамі...

— Не вечнавацъ жа табе ў Буруша, — адпекваўся той. — Нагоніш князя і ў Бельску.

— Хто яго ведае, у тых баках, каля нараўскіх істокаў, нага людская рэдка ступае — звяр'ё ды твань адна... Жывым бы хоць вярнуцца, — ціха прамовіў Грынь і рушыў каня за повад.

*

— Гы-гы-гы! — рагатаў чалавекападобны створ, выслухаўшы прычыны, дзеля якіх завітаў да яго Грынь. Рэха смеху гудзела па пушчы. — Прыйшоў - такі... Знаў я, што прыдзеш, — і Буруш асклабіўся, паказваючы з-пад каўтуноў збітых вусоў жоўтыя выкрыўленыя клыкі.

Утаропленыя ў Грыня яго вочы забегалі, а левая зрэнка заплыла за пераносіцу і ачная яма блішчэла вільготным бяльмом.

Унутры ў Грыня ўсё пахаладзела. Ён не спускаў позірку з Буруша. А той усё гудзеў. І ў гэтым дзікім рогаце чуліся ноты сілы і нейкага шалёнага задавальнення.

— Ы-гы-гы! Па-а-амірае, кажаш! Га-га-га! Яны ўсе перад смерцю ка мне шлюць... Баяцца свайго бога. А я сваіх не баюся... Га-га-га! Яны разам са мною ў пушчы жывуць...

Згорбленая постаць затупала на месцы.

— Гляджу то я ўчора: статак тудоў з лядаў ад Воўчага горла ў Махавое падаўся. Няйначай, думаю, чалавек з канём сюды прадзіраецца, а за ім стая басюроў з вывадкамі валачэцца. Яны то і тудоў спалохалі... А каня-такі задушылі, га?

— Так, — прахрыпеў Грынь. — Сёння ноччу.. А я ў дупле дубовым перасядзеў...

— Ну, заходзь у хату, — ажывіўся Буруш і першы, абапіраючыся на засмоленую клюшку, паклыпаў да свае буды.

Грынь праціснуўся за ім праз вузкую дзвярную шчыліну і, убачыўшы ў куце коўбык, прысеў. Нешта халоднае і слізкае з сыкам ткнула яго ў нагу, і Грынь з шалёным візгам сарваўся з сядзення. Жах уздыбіў яму валасы на галаве.

Пастромкаватае хвалістае вужачае цела затрапятала на глінабітай падлозе.

— Ну-ну! Не базуль ты тут у мяне, — азваўся Буруш да вужакі. — Есці, нябось, захацеў, га?

Гад падпоўз да нагі гаспадара і, хмелем-аборай абвіваючыся вакол яе, пачаў узнімацца па чалавеку. Вось вужачая галава ўжо кранулася пояса, а хвост яшчэ толькі ўсплываў на нагу. Праз момант гадзіна жывым колам абвіла паясніцу. Галава яе матлялася ад рукі да рукі і высунутым рухлівым джалам абшуквала далоні.

Звярыны сковыт заглох у горле Грыня.

— Зараз, зараз... — прамармытаў вужацы Буруш.

Вужака ўзнялася вышэй і, заглядваючы чалавеку ў вочы, спачатку засыкала, а потым запішчэла ціхім, свісцячым голасам.

— Даю ўжо, даю! — прамовіў Буруш і рушыў да прыдзвер'я, дзе на смаляватым турыным рагу вісела лубяная торба.

Як толькі Буруш усунуў у торбу руку, торба ажыла, захадзіла бакамі, зашаргацела. Ён выцягваў з яе жабы і, трымаючы іх за заднія лапкі, падаваў вужу. Той глытаў жабы з маланкавай хуткасцю і відаць было як яны яшчэ жывыя, трапяталіся ў папаўнеўшым вужачым чэраве.

— Сам, небажатка, не ўпалюе, — азваўся Буруш, даўшы апошнюю жабу з торбы і ласкаючы шурпатай далонню гадзіну па галаве. — Сляпы ён. Са старасці. Вось так і жывём мы тут, два парахнякі старыя.

Вуж тым часам ссунуўся з Буруша і папоўз у бок Грыня. Грынь зноў устрапянуўся.

— Не бойся, чалавеча, вужа мірнага. Ён без прычыны зла не ўчыніць. Язык і ўчынкі людскія больш ядавітыя, — падняўшы заскарузлы вузлаваты палец, закрахцеў Буруш. — Ну, перакусі нешта і пачывай тут сабе. А лек заўтра гатовы будзе.

Грынь са страхам у вачах глядзеў на Буруша, а потым перавёў зрок на вужа, што скруціўшыся клубком ляжаў пад лавай.

— Можаш спаць спакойна, ён цябе не зачэпіць, — запэўніў Буруш і падаў Грыню драўляную чашку з пражухай.

Грынь паспешна праглынуў посныя камякі кашы і, змораны смяртэльна, зваліўся на лаву.

Сон быў ліпкі і трывожны. Грынь крычаў і зрываўся. Яшчэ раз бачыў, як стая ваўкоў-бісюроў рэжа яго каня, як скрабаціць мядзведзь, ходзячы вакол дуба, у дупле якога ён сядзіць... Але потым усё недзе знікла і ён занянаў у глыбокае забыццё.

Разбудзіў яго размераны стук таўкача ў ступе. Грынь схапіўся і, прыпомніўшы, дзе ён знаходзіцца, выбег з буды на палянку.

Сонца ўжо падыходзіла пад поўдзень. Ля буды, на прыпёку, у сонечных промнях смажыліся з заціснутымі галовамі ў расчэпленых голлях ялін рудыя змеі-мядзянкі. Сонца пражыла іх шаршавыя лускаватыя целы і да падстаўленых гліняных

(Працяг на стар. 4)

## ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС ПРАДОЎЖАН

**Паведамляем, што літаратурны конкурс на тэму «Сучасная беларуская вёска», аб'яўлены ў красавіку г.г. Галоўным праўленнем БГКТ і Праўленнем Літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа», прадоўжан да 30 лістапада г.г.**

# Аб паляпшэнні ўмоў навучання ў Гайнаўскім павеце

Камісія асветы і культуры ПРН у Гайнаўцы на сваім апошнім пасяджэнні, якое адбылося 9 верасня г.г. разглядзела справы развіцця асветы на тэрыторыі Гайнаўскага павета.

Прааналізаваўшы гэтае пытанне, камісія прыйшла да вываду, што ў апошнія гады справы асветы на гэтым участку значна паправіліся. У 1963—64 навучальным годзе, на агульны лік 78 падставовых школ у павеце, 50 з іх будуць рэалізаваць праграму поўнай падставовай школы. Колькасць вучняў у параўнанні з 1960 годам павялічылася на 731, а колькасць класаў узрасла з 411 да 439. Значна зменшыўся працэнт другагоднікаў. У 1960 г. на другі год засталося 13,4% агульнага ліку вучняў. У 1963 годзе гэтая колькасць зменшылася да 7,6%.

Павысіўся таксама ўзровень настаўніцкіх кадраў. У бягучым навучальным годзе ў агульнаадукацыйных школах Гайнаўскага павета працуе 36 настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй, 110 з няпоўнай вышэйшай адукацыяй і 267 з сярэдняй педагагічнай. Працягваюць навуку 95 настаўнікаў. Сярод іх 10 чалавек вучыцца ў педагагічных інстытутах і 8 ва ўніверсітэтах.

Палепшыліся ўмовы навучання. Выданы значныя сумы на капітальныя рамонты 8 падставовых школ, а ў многіх школах праведзены бягучы рамонт. Аднак значная частка школ у Гайнаўскім павеце мае яшчэ даволі цяжкія памяшкальныя ўмовы. Падставовая школа №2 ў Гайнаўцы размяшчаецца ў 8-пакаёвым будынку, прызначаным на 300 дзяцей. Будынак гэты не надаецца да капітальнага рамонту. А цяпер там ву-

(Працяг на стар. 7)

# Жывое слова патрэбнае

(Працяг са стар. 1)

ўваходзяць дахаты. Пераконваюць людзей, раздаюць брашуры. Людзі гэта ў большасці або непісьменныя, або малаадукаваныя. А мы неаднойчы не ў сілах іх «навучанню» супрацьпаставіць захапляючыя перспектывы сучаснага жыцця, пастаяннага прагрэсу, які адбываецца ў нашай краіне, аколіцы, вёсцы. Значыць да гэтага мы не падрыхтаваны. Чагосьці нам не хапае.

На маю думку, добра арганізаваная, актыўная група лектараў можа шмат ажывіць працу таварыства і пашырыць яго ідэалагічнае ўздзеянне на вясковае асяроддзе. Таму лектарскую групу абавязкова трэба павялічыць. Няхай, прынамсі, адзін раз у месяц лектар БГКТ загляне ў выбраную вёску. Тады і сходы гурткоў будуць больш цікавыя, больш карысныя.

Вядома, што Галоўнае Праўленне не зможа арганізаваць такую колькасць лектараў, якія ахапілі б усе вёскі, дзе існуюць гурткі БГКТ. Але і ёсць жа ў нас павятовыя аддзелы БГКТ. Чаму не арганізаваць у іх 5—6-асабовыя лектарскія групы з адпаведна падрыхтаванымі тэмамі. Несумненна, у кожным павеце знойдуцца такія людзі. Абы толькі забяспечыць іх адпаведнымі матэрыяламі і час ад часу правесці кансультацыю.

Вёска чакае жывога слова. А XIII Пленум забавязвае нашае таварыства да больш актыўнай ідэалагічнай дзейнасці сярод вясковага насельніцтва.

ВАСІЛЬ ПЭШКО
Райск, Бельскі павет.

# БУРУШ

(Працяг са стар. 3)

чарапкоў кропля за кропляй сплываў бліскучы змяіны здор.

Карчастая згорбленая постаць Буруша, апранутага ў пасчэпленыя рысіныя шкуры і лыкавыя лапці, тупала ля ступы.

Ён тоўк там нешта.

Грынь падышоў да яго і зазірнуў у ступу.

Сярод агіднага месіва можна было разрозніць скіўцы і пакамечаныя галовы вужак.

— Слаба падсохлі, таму і таўкачу не паддаюцца, — тлумачыў яму Буруш. — Ты пакуль пайдзі перакусі. У хаце на палку стаіць маладая смажаная вепраўіна. Падмацуйся на дарогу. Лек зараз будзе.

І хоць кожны кавалак станавіўся шторцам у горле, Грынь еў, мяркуючы аб тым, што яго чакае ў дарозе.

— Ну, вось і гатова, — падаючы Грыню абвязаны гладышок, сказаў увайшоўшы Буруш.

Грынь выцягнуў з-за пазухі калетку з грашмі, што перад яго ад'ездам сюды дала княгіня, і падаў Бурушу.

Той развязаў калетку, заглянуў у яе і, асклабіўшыся, усклікнуў:

— Ого-го-го! За гэта я пару зім спакойна тут перабуду... Ну, на цябе ўжо час, — звярнуўся ён да Грыня.

Яны выйшлі на палянку. Буруш, крэкчучы, пайшоў наперадзе ў пушчу.

— Вось гэтых нацёсаў на дрэвах прытрымлівайся, — паказваў ён слабыя знакі на дрэвах. — Яны цябе да Воўчага горла выведуць, а адтуль ты і сам на Бельскі гасцінец выйдзеш.

Грынь падзякаваў.

— Хай табе дарога мірным абрусам ляжа, — прахрыпеў Буруш і, павярнуўшыся, папоўз убок свае буды.

Грынь пастаяў, пакуль вяшчок не знік у гушчавіне і, уздыхнуўшы, падаўся балоцістай нетрай у напрамку Воўчага горла, зорка сочачы за нацёсамі на дрэвах і прыслухоўваючыся да пушчанскіх гукаў.

*

Пад вечар трэцяга дня даваloкся асочнік Грынь да Бельска. Апошнімі намаганнямі ўзабраўся на замкавую гару ў князеўскі хорам. Папрасіўшы служку-ятвяжку падаць знаць княгіні, зваліўся ад дурманячай стомы на лаву.

Неўзабаве скрыпнула створка дзвярэй і ў сенцы выйшла сама княгіня.

Грынь, схіліўшы галаву ў паклоне, працягнуў руку з гладышом у бок княгіні:

— Вось яна, мазь Бурушава...

— Эх, — уздыхнула княгіня і заліллася слязьмі. — Няма чаго ўжо лячыць... Давеча ўся барада разам са скіўцай адвалілася...

Галава Грыня схілілася на грудзі. З яго рук высунуўся гладышок з маззю, упаў і раскалоўся на дробныя чарапкі. Па падлозе паволі расплывалася бліскучая жыжаватая лужына, што ўпітала ўсю прамудрасць пушчанскага чараўніка.

У вушах князеўскага слугі - асочніка гудзеў рогат Буруша: «Ы-гы-гы!.. Яны ўсе перад смерцю ка мне шлюць... баяцца... баяц... ба-а-а...» І халодная колкая млявасць ад ног паволі падпаўзала да сэрца.

Ён бяздушным снапом грымнуў у коўзкую лужыну.

МІКАЛАЙ ГАЙДУК



# Калі вечар спусціцца на зямлю

Вечар восенню рана спускаецца на зямлю. І валілаўская святліца заліваецца ў такі час яскравым святлом вялікай электрычнай лямпачкі, што вісіць пасярэдзіне столі. Раздолле тут, ды без утульнасці. Хіба прычынай гэтага нядаўны капітальны рамонт святліцы, зроблены грамадскім чынам жыхарамі вёскі.

Не даведзена яшчэ ўсё да парадку, не заінсталяваны яшчэ новы тэлевізар, толькі радыё ў кутку прыпамінае моднае 5 год таму «ча-ча». Ды калі вечар сыдзе на Валілы і вокны новай святліцы загарацца святлом, людзі ідуць сюды. За адным, другім сталом раскладаюць шахматы і сёй-той упіраецца кулаком у шчаку. Вежы, коні, каралевы і каралі, каб перамагчы, патрабуюць натугі мозгу. Гэта не тое, што ляскаць картамі ў дурня.

Маладзенькі светліцовы Федзя Хлябіч кажа, што давядуць усё да парадку і пачнуць работу, многа чаго цікавага і карыснага будзе рабіцца ў валілаўскай святліцы. (вл)

фота. Ул. Паўлючук

# Фестын у Вольцы Нурэцкай

29 верасня г.г. у Вольцы Нурэцкай адбыўся фестын прысвечаны Году Беластоцкай зямлі і XX-годдзю Войска Польскага. Урачысты збор насельніцтва акалічных вёсак адкрыў Максім Рудчык, пасол Сейма. Прамову меў Уладзімір Рашчэнка, першы сакратар Павятовага камітэта Партыі ў Сямяцічах.

Ва ўрачыстым адкрыцці свята прынялі ўдзел прадстаўнікі ЛОК, ЗМВ ды іншых арганізацый. Прыбылі таксама прадстаўнікі навакольных грамадскіх рад.

З дакладам выступіў Анатоль Мартыновіч, кіраўнік мясцовай школы, які з'яўляецца старшынёю праўлення Павятовага аддзела БГКТ.

Затым пачаўся канцэрт вясковых аматараў і вучнёўскай моладзі. Сямяціцкі ПСС дэманстраваў асеннюю моду. Можна было пабачыць выстаўку беларускага жывапісу і г.д. Моладзь танцавала ў прыгожай, новай святліцы. (ся)



(Працяг са стар. 2)

варыша. Некалькі гадзін назад восем жыццяў аддалі дэсантнікі, каб перахапіць аўтамабільную калону з Гамбурга, — аперацыя была дакладна распрацавана, нечаканая, і ўсё ж давялося вытрымаць цяжкі бой. Цяпер загінуў яшчэ адзін. А колькіх чакае такі самы лёс, пакуль архівы будуць узяты і перапраўлены цераз лінію фронта.

Загадаўшы, каб цела паднялі наверх і пагрузілі у адну з машын, Рыбін вярнуўся да ўсюдыхода.

Пераправа цераз лагчыну, спыненая выпадкам, зноў пачалася.

І зноў дзявочы лес. Вось на шляху ўсюдыхода вырасла града скал. Далей скалы абрываліся, паміж імі і наступнай градой аказалася прорва метраў тры шырынёй.

— Прыехалі, — прамармытаў Торп.

— Тут? — спытаў Рыбін.

— Не. — Гаўптман прыкрануўся да кнопкі сігнала.

З-за скал выйшлі два афіцэры. Адзін падыйшоў і нешта сказаў гаўптману, другі прысеў перад носам машыны. Рыбін бачыў, як ён разрыў зямлю, выцягнуў на паверхню пятлю тоўстага стальнога троса. Пятлю накінулі на буксірны крук усюдыхода.

— Давай, — сказаў афіцэр.

Вадзіцель уключыў заднюю хуткасць. Усюдыход пачаў падаваць назад. За ім з зямлі пацягнуўся трос. А са скалы памалу высунуліся і папаўзлі на-

269

перад, цераз прорву, два шырокія металічныя жолабы.

— Стоп! — скамандаваў афіцэр, калі канцы жолабаў ляглі на супрацьлеглы край прорвы.

Гаўптман прытармазіў, вылез з машыны, скінуў пятлю з троса і крука і зноў сеў за руль. Усюдыход рушыў наперад і па жолабах пераехаў прорвасць.

Прайшло каля гадзіны з таго часу, як калона, пакінуўшы шашу, уехала ў лес. Усюдыход выбраўся на шырокую паляну. Яна была пустыннай — камень і пясок. Спераду беспарадачна нагрувашчваліся скалы, ахопліваючы паляну паўкругам. Скалы абрываліся да Эльбы, хвалі якой шумелі далёка знізу. Амаль у самым цэнтры паляны ўзнімалася адзінокая скала. Каля яе стаяла легкавая машына, грузавік, былі відаць фігуркі людзей. Ці быў сярод іх Керымаў — Рыбін устанавіць не мог, ды і не меў на гэта часу. Ён павінен быў неадкладна дзейнічаць.

Паляну ўсявалі вялікія камені. Машына йшла, падскакваючы, перавальваючыся з боку на бок. Вось яна моцна калыхнулася, Рыбін ускрыкнуў і вываліўся ў адкрыўшыеся дзверцы.

Гаўптман рэзка затармазіў. Торп выскачыў і схіліўся над спадарожнікам, які ляжаў на зямлі і енчыў.

А міма, адзін за другім, праскаквалі грузавікі.

Першы дызель спыніўся кроках у дзесяці ад скалы. Тут былі Упіц, Керымаў і нейкі маёр. Другі грузавік стаў крыху лявей. Безупынна пад'язджа-

270

лі новыя машыны. Шафёры глушылі маторы і разам з суправаджаючымі калону афіцэрамі выходзілі з кабіны. На пляцоўцы зрабілася людна.

— Эй, вы, — крыкнуў Упіц, звяртаючыся да Коржава, які быў найбліжэй. — Падыйдзіце да мяне!

Коржаў і яшчэ некалькі афіцэраў падыйшлі, шчыльным кальцом абступілі Упіца. Сярод іх быў маёр Перцаў. І пакуль Коржаў тлумачыў, куды дзеўся ўсюдыход з пасланцам групенфюрэра і начальнікам калоны, Перцаў шапнуў Аскеру:

— Тут Адольф Торп, сцеражыся!

Аскер здзіўлена паглядзеў на яго.

— Сцеражыся Торпа, — паўтарыў Перцаў. — Торп тут, зараз з'явіцца.

Аскер кіўнуў, агледзеўся. З-за грузавікоў, кульгаючы выйшаў Рыбін. Яго падтрымліваў Торп.

— Давай у маю машыну, — шапнуў Перцаў. — Вось тая, другая з краю. А я буду побач.

Перцаў рушыў да машыны. За ім пайшоў Аскер.

Між тым, Торп убачыў Упіца.

Пакінуўшы спадарожніка, ён пайшоў з дакладам. Туды ж накіраваўся і Рыбін.

Упіц махнуў рукой.

— Добра, ужо ўсё ведаю. — Ён звярнуўся да ста-

271

# Трыбуна чытачоў



## У КЛЕНІКАХ РУХ

Жыхары вёскі Кленікі ў Гайнаўскім павеце электрычнасцю карыстаюцца ўжо даўно, нават так даўно, што неабходна цяпер выменіць слупы, якія ўтрымоўваюць электрычную лінію. Старыя драўляныя слупы ўступаюць месца новым — жалезабетонным. Вёска папрыгажэе і, што найважнейшае, пройдуць доўгія гады, а слупоў электраліній не трэба будзе мяняць. Вялікая ашчаднасць. Адначасова мантуюць у Кленіках новы перасылачны трансфарматар. Значыць, у хатах ярчэй зазіхацяць лямпачкі.

Наогул зараз у Кленіках вялікі рух. Пасярэдзіне вёскі, на прасторным пляцы пачалі будаваць новую прыгожую школу.

Тэкст і фота: вр

## Шэрні і Міклашы выраўнялі крок

Новыя сельскагаспадарчыя гурткі арганізаваны ў двух вёсках арлянскай ГРН: Шэрнях і Міклашах. Цяпер такія гурткі працуюць ужо ва ўсіх вёсках гэтай грамады. Працуюць гурткі і разам з імі, хутчэй дзякуючы ім, машыны, бо ж вядома, што сельскагаспадарчы гурток на вёсцы — гэта добры спосаб і добры выхад скончыць са старымі метадамі працы і перайсці на механізацыю. Новыя гурткі ў Міклашах і Шэрнях ужо купілі па абмалотачным агрэгаце і сеўніку. Шэрняўцы і матаровую сячкарню. (вл)

## ГУЛЬНІ ПАТРАБУЮЦЬ „ФЛЮСУ"

**(Працяг са стар. 5)**

ліцаю», а святліцу (гэту пры дарозе) здадуць на звалку!? Трэба ведаць, што Меляшкі належаць да ліку тых шчаслівых вёсак, дзе незадоўга пачнецца будова навюткай школы паводле апошніх архітэктурных праектаў.

Уявіўшы сабе такім чынам усю несамавітасць меляшкоўскай рэчаіснасці, спрабаваў я адшукаць шэфаў гуртка ЗМС ці БГКТ. Эх, лягчэй «накрыць» патаемніка, чымсці, дапусцім, выкрыць старшыню гуртка!

А ў павятовым аддзеле БГКТ у Міхалове запэўнівалі мяне, што да Меляшкоў у простай лініі усяго тры-чатыры кіламетры будзе...

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

## Аб паляпшэнні ўмоў навучання ў Гайнаўскім павеце

**(Працяг са стар. 4)**

чыцца 850 дзяцей. І такіх школ ёсць больш у павеце.

Маючы на ўвазе далейшае развіццё асветы і паляпшэнне ўмоў навучання ў Гайнаўскім павеце, Камісія асветы і культуры ПРН вырашыла выступіць да Прэзідыума ВРН у Беластоку з шэрагам прапаноў. Большасць гэтых прапаноў датычыла памяшкальных патрэб нашага школьніцтва. Бо гэтая справа цяпер найбольш пільная ў нашым павеце.

Адна з прапаноў гаворыць аб неабходнасці будовы ў Гайнаўцы міжшкольнага інтэрнату. Штодзень да ІІ ліцэя і Засаднічай школы завадовай даязджае 600 вучняў. Шмат мясцовасцей, адкуль даязджаюць вучні, знаходзіцца ў адлегласці некалькіх кіламетраў ад чыгуначных ці аўтобусных прыпынкаў. Справа будовы інтэрнату ужо парушылася некалькі разоў і ўжо, мабыць, прыйшоў час, каб яе вырашыць.

Камісія культуры і асветы ПРН у Гайнаўцы ўнесла апрача гэтага шмат іншых прапаноў. Калі гэтыя прапановы будуць прыняты, умовы навучання ў Гайнаўскім павеце ў значнай ступені палепшацца.

УЛ. САЦ
Гайнаўка

## Сем іх было ў Спічках

Гэтыя прозвішчы варты газеты, за гэтымі прозвішчамі скрываюцца амбітныя людзі, людзі на меру нашых часоў.

Прозвішчы:

Аляксей Хамански — старэйшы гаспадар, Сяргей Мароз — старэйшы, вельмі добры гаспадар. Мікалай Карнілюк — малады, але самастойны гаспадар, Рыгор Гапуновіч, Мікалай Хамански, Іван Себясевіч, Павел Себясевіч — усе апошнія маладыя.

За што для іх пашана?

За навуку. Так, і то за самастойную навуку. Гэтыя людзі ў рамах ПР скончылі ІІІ ступені сельскагаспадарчай адукацыі. Здалі ўжо дзяржаўныя экзамены. Некаторыя на пяць (Сяргей Мароз, Мікалай Карнілюк), усе іншыя на чатыры.

Адзін з іх Аляксей Хамански (як папярэдне адзначылі, старэйшы гаспадар) не задаволіўся гэтым. Навука дае невытлумачальную прыемнасць і, галоўнае, к а р ы с ц ь. Паступіў ён тады завочна ў 4-гадовы сельскагаспадарчы тэхнікум. Чатыры гады... Праляцяць, не аглянешся. А мы з прыемнасцю напішам аб першым спічкоўскім гаспадары з дыпломам т э х н і к а.

Павятовае Праўленне ЗМВ разважае справу вызначэння Хаманскаму стыпендыі. вл.

## 4 перадавыя

Гэта вёскі Храбалы, Гацькі, Плёскі і Дзяніскі ў ГРН Храбалы. Вылучыліся яны выкананнем свайго плана сбору на фонд будовы школ Тысячагоддзя за бягучы год. Адзначаем гэты факт з прыемнасцю. (вл)

ПРАЎНІК РАІЦЬ

## ЯК ДЗЯЛІЦЬ СПАДЧЫНУ

Гаспадарку атрымоўваюць у першую чаргу тыя, што не менш года перад смерцю гаспадара працавалі без перапынку на гаспадарцы. Толькі за іх згодай можа атрымаць гаспадарку той, хто мае сваю гаспадарку, працуе на гаспадарцы жонкі (мужа), або не працуе на гаспадарцы, але мае сельскагаспадарчую адукацыю.

Калі памёршы не пакінуў па сабе наследнікаў, якія пражывалі прынамсі год на гаспадарцы, то гаспадарка прыдзяляецца таму, што мае сваю гаспадарку або працуе на гаспадарцы жонкі (мужа).

Калі б не было і гэткіх наследнікаў, гаспадарку можа атрымаць той, хто паводле спадчыннага права з'яўляецца наследнікам, хоцьбы пражываў у горадзе. Да наследнікаў залічаюцца дзеці, унукі, бацькі, браты і сёстры і іх дзеці.

Гэта катэгорыя наследнікаў можа атрымаць гаспадарку толькі ў тых умовах, калі яны маюць адпаведнае прыгатаванне да вядзення гаспадаркі і зложаць перад судом або натарыусам асвядчэнне, што згаджаюцца весці гаспадарку. Яны, атрымаўшы гаспадарку, не маюць права прадаць яе або аддаць у дзяржаву, а мусяць абрабляць яе ўласнай працай. Асвядчэнне перад судом або натарыусам можа быць зложана толькі на працягу шасці месяцаў ад смерці гаспадара — ўласніка гаспадаркі.

Калі няма і гэтакага наследніка, то гаспадарку можа атрымаць непаўналетні вучань або студэнт. Іх таксама абавязвае злажэнне асвядчэння перад судом і натарыусам. Няздольныя да працы (інваліды І і ІІ катэгорыі) не могуць атрымаць гаспадаркі нават тады, калі б пражывалі цэлы час на гаспадарцы, і не было іншых наследнікаў.

Гэтага ўстаноўленага законам парадку не можна змяніць умовай або завяшчаннем. Натарыус не падпіша ўмовы, якая была б нязгодна з законам аб агранічэнні падзелу сельскіх гаспадарак, а завяшчанне, нязгоднае з законам, з'яўляецца няважным на аснове закона.

Наследнік, які атрымаў гаспадарку, не мае права на працягу пяці год прадаць усёй гаспадаркі або яе часткі, хіба што набыўцам з'яўляецца дзяржава.

Калі няма наследнікаў, якія б маглі атрымаць гаспадарку, уласнасць яе пераходзіць на дзяржаву.






**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Я ўжо нядаўна скончыў 19 год. Працую на гаспадарцы бацькоў са сваім старэйшым братам. Год часу, як я пасябраваў з Оляй. Яна мне вельмі спадабалася. Оля вельмі прыгожа спявае, мо' і таму я ў ёй закахаўся. Яна таксама мяне пакахала і кахае па сёння, кахае з надзеяй, што калісь пажэнімся. Зрэшты, я ёй абяцаў. Але вось цяпер я думаю і адчуваю інакш. Я ўжо не кахаю Олю, хоць перад ёю не прызнаюся ў гэтым і захоўваюся так, быццам між намі нічога не змянілася. Проста мне шкада Олі і мяне мучыць сумленне, не магу вызнаць Олі праўды. Тым больш, што я цэлымі начамі думаю аб Нюры, з якой нядаўна пазнаёміўся.

Сэрцайка! Што рабіць? Парай. Я не магу Олі гэтага сказаць і далей сябрую з ёю і ўдаю закаханага, а ў сапраўднасці, цалуючы Олю, думаю аб Нюры.

Чакаю хуткага адказу
**Міця**
з Беластоцкага павета.

**Дарагі Міця!**

У сапраўднасці твая «сумленнасць» не надта сумленная. Нічога ўжо не прыдумаеш, каб кахаць Олю, і таму трэба ёй абавязкова аб гэтым сказаць. Вядома, ёй будзе непрыемна і крыўдна, але ж заставіць кахаць нікога не можам. У такіх гадах, як ты, Міця, каханне вельмі часта змяняецца і любоўныя няўдачы таксама хутка забываюцца. Таму і Оля напэўна хутка аб гэтым забудзе, яна ж мае толькі 17 год.

СЭРЦАЙКА

## КІНО

**Праграма**

**на 7—13.X.1963 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Noc szpiegów" (franc.), 8—10. „Trudne godziny" (włoski); 11—13.

**Кляшчэлі**
„Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 8—10. „Jons i Erdme" (NRF), 11—13.

**Навасады**
„Champion" (USA), 12—13.

**Нараў**
„Lata bez marzeń" (węgierski), 9—13.

**Нараўка**
„Na białym szlaku" (polski), 9—13.

**Чаромуха**
„Globke — biurokrata śmierci" (NRD), 8—10. „Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.), 11—13.

**Чыжы**
„Na scenach świata" (rumuński), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Spóźnieni przechodnie" (polski), 9—13.

**Бранск**
„Poste-Restante" 8—10. „Mam tu swój dom" (polski), 11—13.

**Гродзіск**
„Bariera ognia" (radz.), 9—13.

**Орля**
„Kolorowe pończochy" (polski), 9—13.

**Райск**
„Ogniomistrz Kaleń" (polski), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Sztubak" (czeski), 8—10. „Europolis" (rumuński), 11—13.

**Міхалова**
„Trzynastego nocą" (bułgarski), 8—10. „Smarkula" (polski), 11—13.

**Супрасль**
„Karabin i gołębie" (węgierski), 8—10. „Następcy tronów" (włoski), 11—13.

**Чорна Беластоцкая**
„Uprowadzenie" (włoski), 8—9. „Dziewczęta w mundurach" (NRF), 10—11. „Marcin w obłokach" (jugosł.), 12—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Skrawek błękitnego nieba" (jugosławiański), 8—10. „Europolis" (rumuński), 11—13.

**Мілейчыцы**
„Tajemnica tajgi" (radz.), 8—10. „Pan Marszałek i ja" 11—13.

**Нурэц**
„SOS na Pacyfiku" (angl.), 8—10. „Smarkula" (polski), 11—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Ocean Lodowaty wzywa" (czeski), 8—10. „Gangsterzy i filantropi" (polski), 11—13.

**Сухаволя**
„Gdzie rzeki błyszczą w słońcu" (czeski), 8—10. „Chłopiec z Czarnego lądu" (angl.), 11—13.

**Шудзялава**
„Alibi nie wystarczy" (czeski), 9—13.

**Сідра**
„Manekin Pis" (holenderski), 8—10. „Opowieść o prawdziwym człowieku" (radz.), 11—13.

**Янаў**
„Zamek z bajki' (NRD), 8—10. „Niewidomy muzyk" (radz.), 11—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Ożeniłem się z czarownicą" (USA), 12—13.

**Новы Двор**
„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 12—13.


**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-80, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł. rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 6 $ — w USA.

Nakład 5458 BHK A3

